# НАСУСТРАЧ ПЯЦІГОДДЗЮ Б★Г★К★Т




ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 3 (255) | ГОД V | БЕЛАСТОК, 15 СТУДЗЕНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

Уладзімір Юзвюк-сакратар ГП БГКТ

26 лютага 1956 года ў Беластоку адбыўся І з'езд Беларускага грамадска - культурнага таварыства. З'езд гэты быў знамянальнай падзеяй у жыцці беларускага насельніцтва, пражываючага ў межах Польшчы. Ён стварыў беларускую арганізацыю, выпрацаваў напрамак яе дзейнасці, зацвердзіў статут і паклікаў улады Таварыства.

Неўзабаве міне пяць год ад гэтай даты. Невялікі гэта адрэзак часу, але дае ён магчымасць падвесці вынікі дзейнасці БГКТ.

Сустракаючы нашае пяцігоддзе, мы павінны разгарнуць шырокую дыскусію, у якой члены Таварыства ацанілі б дасягненні і недахопы арганізацыі.

За пяць год сваёй дзейнасці Таварыства мае вялікія дасягненні і мае поўнае права імі ганарыцца. Аднак з думкай аб яшчэ лепшай працы ў будучыні хачу сёння пагаварыць аб іншым.

Мне хочацца закрануць некалькі пытанняў працы БГКТ, якія або нявырашаны яшчэ, або цяжка рашаюцца.

Улічваючы патрэбы насельніцтва, ГП БГКТ накрэслівае кожны год шырокі план дзейнасці і да яго рэалізацыі прыцягвае шматлікі актыў. Актыў такі ёсць і ён выконвае сапраўды вялікую працу. Але гэты актыў не вельмі павялічваецца. Да працы імкнецца моладзь і старэйшыя людзі. Сярэдні ўзрост (30 — 50 год) з намі амаль не супрацоўнічае. Таму хочацца пажадаць гэтаму пакаленню, каб у бягучым годзе павялічыла яно рады нашых актывістаў.

Трэба, каб актыў наш цікавіўся падпіскай «Нівы» і чытальніцтвам беларускіх кніжак. працай нашых інструктараў у паветах і асветай дарослых, працай мастацкага калектыву і навучаннем беларускай мовы ў школе, пытаннямі павышэння ўраджайнасці глебы і культурнага ўзроўню насельніцтва.

Вопыт паказвае, што праца ідзе добра там, дзе ёсць моцны актыў і таму пашырэнне актыву лічым першачарговым заданнем.

Слабым месцам нашай працы

(Працяг на стар. 3)



Сяброўская сустрэча літоўскіх і беларускіх мотагоншчыкаў на ледзяной дарожцы стадыёна «Дынама» ў Мінску. Злева чэмпіён БССР майстар спорта Клізо. (Чытай на стар. 2 «Спартыўнае жыццё Беларусі».)

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## У МІНУЛЫМ ГОДЗЕ...

Год 1960 быў годам актыўнага ўключэння нашага насельніцтва ў кампанію грамадскіх чынаў. Добрае месца ў гэтай справе ў нашым ваяводстве заняў Гайнаўскі павет.

Мы завіталі да Грамадскай рады нарадовай у Дубінах каля Гайнаўкі і гутарым са старшынёю Мечыславам Валендай.

— Здаецца ў вас нядрэнна было з грамадскімі чынамі праз увесь 1960 г. Можа раскажаце нам аб іх.

— Вось, напрыклад, нялёгка было дабрацца ў «балотны час» з Дубін у Савіны Груд. Усяго толькі 1 км дарогі, але «ўпівалася ў косці» больш, чым 15 км добрай. Нашу прапанову адносна рамонту гэтай дарогі жыхары Савінага Груда прынялі з вялікім задавальненнем. Усе гаспадары працавалі па адным дню. А грамадскі фонд яны выканалі яшчэ да гэтага ў

(Працяг на стар. 2)



Аляксандра Яроцкая і Сцяпан Зенюк, Гарадоцкія самадзейнікі, у «Абразку з вясковага жыцця».

фота Г. Рагазінскі

## Бліжэй штодзённага жыцця

Даўней гаварылася аб шымкаўскай моладзі, што яна нядружная, безініцыятыўная, але мала хто нават хіба падумаў, што яна б е з д а п а м о ж н а я. І гэтая бездапаможная моладзь рабілася ў пэўным сэнсе лянівай. Спрыялі гэтаму ў пэўнай меры тутэйшыя ўмовы жыцця. Потым маладыя людзі пачалі разглядацца, куды б тут уцякаць, каб не быць пакрыўджанымі сваім лёсам. Моладзь, не бачачы перспектыў у вясковым жыцці, пачала пакідаць бацькоўскія гаспадаркі і ўцякаць у горад, нягледзячы на тое, што там без кваліфікацыі не атрымае добрай працы, а тым больш ніхто не сустрэне іх з... падрыхтаванымі жыллямі. Але абы толькі ў горад, абы час ад часу паказацца ў вёсцы «гарадскім чалавекам». Зразумела, што не да ўсёй моладзі аколіцы Шымак гэтае адносілася. А адносілася яно перш за ўсё да тых маладых людзей, якія рабілі бацькоў таксама бездапаможнымі, пазбаўляючы іх сваім адыходам рабочай сілы.

Але з паступовай стабілізацыяй сельскай гаспадаркі іншае аблічча пачала прымаць і культура вёскі. Гэтае кранула таксама і аколіцу Шымак. Большае зацікаўленне рэнтабельнасцю гаспадарак, уводжанне механізацыі кранула ў нейкі спосаб тонкія струны зацікаўлення у маладых людзей. У выніку гэтага яны пачалі больш сур'ёзна думаць аб лёсе гаспадарак сваіх бацькоў, а гэтым самым і аб сваім лёсе. Зараз у гутарках з гэтай моладдзю адчуваецца, што яна бачыць патрэбу і сваё месца быць у вёсцы, дбаць аб яе культуру, думаць аб яе будучыні, а адначасова і аб сваёй будучыні.

Такія думкі выявіліся ў часе маёй пабыўкі ў Шымках, а дакладней кажучы на занятках у школе сельскагаспадарчай падрыхтоўкі.

(Працяг на стар. 4)

# НОСТРЖЫК БЕЛЫ

У апошні час у газетах і праз радыё часта пішацца аб вялікай карысці малазнанага на Беласточчыне нострэжыка белага. Двухгадовая расліна гэтая належыць да сям'і канюшынавых. Лісце падобна да канюшыны ці люцэрны. Як пішуць некаторыя газеты, вырастае ён да 2 метраў вышыні. Корань яго дасягае да 2 і больш метраў глыбіні, а на карэннях яго нарастаюць барадаўкі, як у лубінах. Можна сеяць у чыстым севе, а можна падсевам з ячмянём, аўсом ці яравой пшаніцай. Сеецца таксама як на плён пасля прыворкі жытняй пожні. У першым годзе вырастае да паўтара метра вышыні. Хаця і зацвітае, але насення не дае, таксама як канюшына, дае насенне ў другім годзе свайго росту. Адмершае тоўстае карэнне пакідае ў зямлі глыбокія поры, праз якія снегавая і дажджавая вада праходзіць у глебу, а вясною ў выпадку сухога надвор'я дапамагае расліне ператрываць сушу. Гэта нетыповая мёдадайная расліна, аднак пчолы ахвотна бяруць з яе нектар. Характэрна, што нострэжык белы добра расце на грунтах пясчаных, абы толькі быў дастатковы запас вапны, крыху солі калійнай ці суперфасфату і толькі ў пачатковай фазе ўзросту — невялікая колькасць азотных угнаенняў.

Калі мы хочам угнаіць нашае поле, то трэба сеяць у весну на прыворку лубін і абавязкова ў мешанцы з нострэжыкам. На прыворaным лубіне з нострэжыкам можна сеяць бульбу, чырвоныя ці цукровыя буракі, моркву ці іншую гародніну. У першым годзе пасеву нострэжык белы дае два пакосы сена, або некалькі раз можна касіць на зялёны корм. Можна таксама заквасіць яго ў сіласнай яме найлепш у мешанцы з бурачаным лісцем ці кукурузай. Заахвочаны артыкуламі ў газетах я пасеяў 10 араў нострэжыка белага ў Бельску пры вуліцы Усходняй, супроць дома грам. Гарошка і за першае лета вырас ён больш як 150 см. вышыні і такі густы, што ніякая іншая расліна не дасць такой вялікай масы зеляніны.

**Нестар Перавой**

# БУДУЮЦЦА РЭМІЗЫ

У грамадзе Галады (Бельскі пав.) у многіх вёсках сяляне імкнуцца да таго, каб пабудаваць будынак, у якім хапала б месца і на святліцу. І так, у Галадах вясной закончана будову рэмізы — святліцы.

У вёсцы Спічкі рэміза - святліца будзе выканана ў будучым годзе. Стаіць ужо там зруб і зацягнуты бэлькі.

Шчыты, Навасады і Шчыты-Дзенцялова на супольным сходзе, у якім брала ўдзел 112 чалавек, паднялі пастанову таксама пабудаваць рэмізу-святліцу.

**М. Х.**



**На здымку: РЭМІЗА-СВЯТЛІЦА Ў ГАЛАДАХ**

фота Г. Рагазінскі

## З жыцця БГКТ на Сакольшчыне

### ГУРАНЫ ажыўляюцца

Вечарам 22 снежня доўга гарэла святло ў будынку Грамадскай рады ў Гуранах (Сакольскі пав.). Сабраліся тут члены праўлення мясцовага гуртка БГКТ. Прыбыў тут запрошаны настаўнік беларускай мовы Юзэф Субета.

Рэдка дагэтуль што-небудзь у Гуранах рабілася — моладзь апрача аб'язднога кіно амаль не мае ніякай культурнай разрыўкі. А вёска мае новую і вельмі прасторную школу.

Таму праўленне гуртка БГКТ вырашыла арганізаваць пастаноўку двух кароткіх аднаактовак на беларускай і польскай мовах.

Стаецца толькі пажадаць удачы ў гэтых вельмі цікавых і карысных пачынаннях.

(ся)

### У НОВЫМ ВОСТРАВЕ ПРАЦУЮЦЬ

Людна было 22 снежня ў хаце мясцовага настаўніка Івана Аляксеюка ў Новым Востраве, Сакольскага павета. Актывісты гуртка БГКТ абмяркоўвалі чарговае заданне.

Усім вельмі спадабалася п'еса Уладзіміра Няфёда «Жыць на гэтым свеце». Моладзь выступіць з яе пастаноўкай у сваёй вёсцы, а таксама плануе выехаць у Верхлес.

Адзначым, што ў сучасны момант гуртак налічвае 27 асоб.

(ся)

### СЛЯДАМІ «ПАЎЛІНКІ»

Некалькі гадоў таму назад у Паўднёвым Востраве вельмі цікава і плённа працаваў артыстычны гурток, які ўславіўся добрай пастаноўкай п'есы Янкі Купалы «Паўлінка». З гэтай п'есай гурток выступаў у акаліцы.

Нядаўна моладзь вырашыла актывізаваць культурна-асветную працу ў роднай вёсцы. Да таварыства ўступіла 13 новых асоб — маладых людзей.

Дамовіліся падрыхтаваць пастаноўку п'есы Уладзіміра Галубка «Суд». Вырашана таксама пры супрацоўніцтве з навакольнымі гурткамі БГКТ у Новым Востраве і ў Гуранах паспрабаваць наладзіць курс крою і шыцця і курс на правa язды.

Праўленню гуртка БГКТ у Паўднёвым Востраве і ўсёй моладзі за-



Настаўніца з Вялікіх Тынявіч (Гайнаўскі павет) Марыя Бачынская асабліва ўрачыста сустрэла новы 1961 год. Менавіта ў гэты дзень ёй споўнілася 20 год.

Жадаем маладой настаўніцы поспехаў у працы і шчасця ў асабістым жыцці.

фота Г. Рагазінскі

Аддзел Культуры ППРН у Бельску Падляшскім супольна з Павятовым аддзелам БГКТ наладзіў выстаўку народнага мастацтва ў мясцовым Доме Культуры. Ад 22.XII.60 г. па 10.I.61 г. штодзённа выстаўку аглядала каля 40 асоб.

Сярод рэчаў і прадметаў у нашых сялянскіх хатах знаходзіцца шмат цэннасцей, калі разыходзіцца аб т. зв. гістарычнасць народнай культуры, якая праяўляецца таксама ў народным мастацтве. Развіццё ўсіх галін тэхнікі памагае нам сёння ва ўсіх галінах жыцця. Змянілася вопратка, абутак..., мяняюцца абставіны нашых хат. Прадметы з далёкага і нават блізкага мінулага робяцца экспанатамі выставак, з якіх можам адчытваць многае з жыцця сялянства, яго здольнасці, таленавітасць, мудрасць, заradнасць і практычнасць. Калі глядзелася на экспанаты бельскай выстаўкі, якіх было каля 300 штук, усё ж выклікалі яны нейкі бліжэй неакрэслены жаль, што парываецца зараз з прыгажосцю саматужнага мастацтва. Старых прадметаў, як экспанатаў, было мала. Але тыя, што былі, выклікалі сярод наведвальнікаў выстаўкі вялікае зацікаўленне. «Чаму ж няма ў нас хаця правізорнага беларускага музея, куды б можна сабраць яшчэ шмат экспанатаў. Цікавых, вартасных, гістарычных. Яны ж гінуць разам з пераменамі ў жыцці — думалася, аглядаючы адну з многіх падобных ужо выставак.

(мк)

### З-ПАД СТРЭХАЎ СЯЛЯНСКІХ ХАТ

## ВУЛЬКА МЕХАНІЗУЕЦЦА

Механізацыя — гэта рухавік сельскай гаспадаркі. Гэта добра разумее сельскагаспадарчы гурток у Вульцы (Бельскі павет), які ўзначальваецца Сяргеем Галкай. Члены гуртка купілі ўжо і супольна карыстаюцца малацільным агрэгатам, шрутоўнікам і крайзэгай. Зараз копяць грошы на пакупку трактара з усім камплетам сельскагаспадарчых машын.

**М. Х.**

## ЗА СЛЁЗЫ БАЦЬКОЎ

(Працяг са стар. 3)

шы аб усялякай асцярозе, закрычаў ва ўвесь голас:

— Хлопцы, дык гэта ж нашы — Шаўчук, Дарбек, Абраімаў.

Выскачыўшы з засады, разведчыкі кінуліся абдымаць таварышаў.

Праз некалькі гадзін мы сустрэліся з Пашуном і яго людзьмі. Яны шукалі нас звыш месяца. Скінулі іх з самалёта каля станцыі Хойнікі, за сто восемдзесят кіламетраў ад Тоўстага Лесу. Лётчыкаў увялі ў памылку кастры, якія былі там запалены. Як высветлілася пазней, кастры гэтыя палілі мясцовыя жыхары, якія працавалі на чыгунцы.

### СУМНАЯ ВЕСТКА

Неўзабаве мы даведаліся аб лёсе Сашы Тварагава і яго групы.

Група Сашы Тварагава скінута з самалёта на поўдзень ад Жытоміра, абышла горад з захаду і накіравалася на поўнач, да месца збору атрада. У адной вёсцы партызаны размясціліся на начлег. Ноччу хату акружыў атрад эсэсаўцаў. Афіцэр запрапанаваў партызанам здацца жывымі.

— Бальшавікі не здаюцца! — адказаў Тварагаў і партызаны адкрылі агонь з вокнаў хаты.

Усю ноч і ўвесь наступны дзень працягваўся гэты няроўны бой. Партызаны перабілі звыш паўсотні эсэсаўцаў але і ў іх з чатырнаццаці таварышаў у жывых засталося толькі пяць.

На другую ноч эсэсаўцы падпалілі хату. Партызаны выскачылі з вокнаў. Ім удалося ўцячы.

За ноч раненыя, змучаныя боем, галодныя, яны адышлі кіламетраў на дзесяць. На світанні, убачыўшы пагоню дабеглі да першай вёскі, увайшлі ў крайнюю хату і ў ёй забарыкадаваліся. Гітлераўцы акружылі хату, стралялі ў вокны, выломлівалі дзверы, але не маглі зламаць супраціўлення пяцярых партызан. Толькі калі трое з іх былі забіты, фашысты змаглі ўвайсці ў хату. Дваіх яны не засталі — тым удалося нейкім цудам уцячы. Па апісанням відавочнікаў мы зразумелі, што ў ліку забітых быў і Тварагаў.

(Працяг у наступным нумары)

# ЛЕВАРУЧНАСЦЬ

Перавага ў дзейнасці адной рукі над другою ўзалежнена ад сіметрыі функцыі цэнтральнай нервовай сістэмы. Паўшар'і галоўнага мозгу працуюць пераважна няроўнамерна. У праваручных левае паўшар'е дамінуе над правым, а ў леваручных наадварот — правае над левым.

Большая спраўнасць у функцыянальнасці аднаго боку цела над другім не агранічаецца выключна да працы рук, хаця найбольш у працы рук гэта прыкметна. Таксама як аб праваручнасці і леваручнасці, можна гаварыць і аб праваВочнасці і левавочнасці.

Побач са з'явамі аднабаковай дамінацыі, калі праваручнасць згарманізавана з праваВочнасцю і праваножнасцю, а леваручнасць згарманізавана з леваручнасцю і леваножнасцю, здараюцца выпадкі скрыжаванай дамінацыі. Дзіцё можа быць, напрыклад, праваручным і адначасова левавочным і леваножным. У практыцы асабліва важным з'яўляецца такі род, у якім леваручнасць суправаджаецца праваВочнасці.

Доследы выявілі, што ў дзяцей гэткай скрыжаванай дамінацыі сцвярджаюцца частыя разладжанні ў пісанні, а некаторыя пішуць літары наадварот (люстранае пісанне). Перавага адной часткі цела над другой неаднолькава ў дзяцей. У адных на пачатку перадшкольнага перыяду ёсць перавага адной часткі цела, а пасля няма прыкметнай гэтай перавагі. Яшчэ іншыя дзеці ў перадшкольны перыяд выяўляюць тэндэнцыі да леваручнасці, а пазней стаюцца праваручнымі. У гэтым выпадку можна гаварыць аб зменнай дамінацыі.

Леваручнае дзіцё ў многіх выпадках знаходзіцца ў цяжэйшым становішчы, чым яго праваручныя равеснікі. Вялікі працэнт леваручных дзяцей пачынае дрэнна вучыцца ў школе і хутка траціць ахвоту, асабліва, да пісання. Таму да леваручнага першакласніка трэба ставіцца з асаблівай зычлівасцю, сардэчнасцю, зразуменнем.

Вырашэнне «выбару рукі», якою дзіцё павінна пісаць, з'яўляецца вельмі важнай справай. У некаторых краінах леваручных дзяцей даследваюць спецыялісты, псіхолагі і неўролагі і тады вырашаецца выбар іх рукі.

Многа леваручных дзяцей трэба заахвочваць да пісання правай рукой. А некаторым зусім гэтага не рэкамендуецца.

Сістэматычная трэніроўка пасля нейкага часу дазваляе леваручным дзецям правільна пісаць правай рукою. Пісанне правай рукой рэкамендуецца ўсім леваручным, у якіх правае вока дамінуе над левым. Леваручныя дзеці, у якіх уся левая частка цела дамінуе над праваю і якія маюць невялікія разумовыя здольнасці (а тым больш адсталыя разумова), павінны пісаць левай рукой. Па прычыне малой агульнай прадукцыйнасці не хапае ў іх сілы на пачаткавыя намаганні пісаць «горшай рукой». І таму трэба ім дапамагаць у пісанні левай рукой.

Бываюць такія выпадкі, калі леваручным дзецям за інтэнсіўна трэніруюць іх правую руку. Тады наступаюць дадатковыя забурэнні нават не толькі ў здольнасці пісання, але і ў мове. Такім чынам леваручнае дзіцё патрабуе спецыяльнага падыходу і спецыяльнай апекі. Толькі ў лагодны спосаб трэба яго заахвочваць да пісання правай рукой.

# РЭСПУБЛІКА ГАТЭЛЬШЧЫКАЎ І КРАЎЦОЎ

Жыхары паўднёвай Францыі часта называюць Андору рэспублікай гатэльшчыкаў і краўцоў. Андора — гэта невялічкая краіна, размешчана паміж Іспаніяй і Францыяй ва ўсходніх Пірэнеях на вышыні 1200 — 2900 метраў над узроўнем мора. Абшар яе мае ўсяго толькі 453 квадратных кіламетраў. Гэта мала больш ад абшару, які займае, напрыклад, Варшава. У Андоры 6 тысяч жыхароў. Сталіцай і адначасова адзінай большай асадай рэспублікі з'яўляецца Андора, якая налічвае 700 жыхароў. Большую частку тэрыторыі Андоры займаюць лясы і пашы. Толькі на маленькай частцы вырошчваецца тут жыта, ячмень, табак і вінаград. Гаспадарка краіны аснована на гадоўлі авец, продажы воўны да Францыі, Іспаніі і Англіі, абслугоўванні шматлікіх турыстаў і... кравецкіх майстэрнях. Іспанскія і французскія ваўняныя матэрыялы нелегальна перавозяцца ў Андору. Шматлікія французскія турысты шыюць тут сабе касцюмы і зноў нелегальна перавозяць іх у Францыю. Такім чынам побач з гатэльніцтвам развілося тут кравецтва.

Увесь турыстычны і гандлёвы рух Андоры адбываецца на адзінай шашы, якая злучае Францыю з Іспаніяй.

# Ці ведаеце вы, што...

...Філіпінскі архіпелаг складаецца з 141 астравоў.

...на нашай планеце жыве 20 тысяч відаў смаўжоў.

...вярблюд адразу выпівае каля 50 літраў вады, а потым можа не піць два тыдні.

### ГАРАДЫ НА АСТРАВАХ

Усе вы чулі пра італьянскі горад Венецыю. Але не ўсе, мусіць, ведаюць, што ён размешчаны на 118 астравах. У ім налічваецца 400 мастоў. Другім такім вялікім горадам з'яўляецца Ленінград. Ён размешчаны на 118 астравах і мае 350 мастоў.

### 500 ТЫСЯЧ ДОЛАРАЎ ЗА... ПЛІСКІ

У нашых лясах штогод расце мноства жоўтых грыбоў, так званых плісак.

Восенню 1960 года штодзённа высылалася 10 тон свежых плісак за граніцу. Польскі гандаль атрымаў за іх 500 тысяч долараў.

### ТЫСЯЧА ПЕСЕНЬ У РЭПЕРТУАРЫ

...Тысяча песень у рэпертуары! Яны выконваюцца на мовах амаль шасцідзесяці народаў свету. Можна падумаць, што гэта пад сілу толькі вялікаму музычнаму калектыву. Аднак гэтыя песні спявае адна спявачка — народная артыстка СССР Тамара Ханум.

# ДОБРА ДАІЛІ

Амаль 50 прац. капіталу ўсіх прадпрыемстваў і акцыйных суполак у даваеннай Польшчы належала да заграінчных капіталістаў. Металургія, вугальная і нафтавая прамысловасць у 3/4 знаходзіліся ў руках заграінчнага капіталу.

Найбольшае «польскае» прадпрыемства — «Суполка інтарэсаў» поўнасцю была залежная ад амерыканскага і нямецкага капіталаў.

Уся прадукцыя соды ў Польшчы адбывалася ў двух фабрыках, якія належалі да нямецкага канцэрну «Сальваў». Заграінчныя капіталісты цягнулі з Польшчы велізарныя даходы. Шведскі канцэрн слаўнага ў той час Івара Крыгара, які трымаў у сваёй руцэ манаполь на запалкі ў Польшчы, з 5 мільёнаў злотых укладзенага капіталу выцягнуў 6,5 мільёнаў чыстага даходу. Таму нічога дзіўнага, што запалкі ў гэтым самым часе дзялілі ў Польшчы на 4 часткі, а на вёсках людзі карысталіся крэсівамі.

### НАЙМАЛОДШАЯ НА СВЕЦЕ

Наймалодшая на свеце ўдава мае толькі 14 год. З'яўляецца ёй амерыканка Пеггы Прауль, якая маючы 13 год, выйшла замуж і пасля гадовага супружаства муж яе загінуў у катастрофе.

### КВАЛІФІКАВАНЫЯ МАЛПЫ

У Сіяме ёсць вельмі многа фальшывых манет. У сувязі з гэтым на кірмашах, у банках і канторах памагаюць касірам кваліфікаваныя малпы, якія грызуць кожную паданую ім манету. Калі на манеце астанецца след зубоў, значыць манета фальшывая, а калі няма следу — манета добрая.

### АБ СУСВЕТНЫХ НАРАДЖЭННЯХ

208 дзяцей нараджаецца на свеце на працягу кожнай мінуты. У 1959 годзе прыбыло на зямным шары каля 49 мільёнаў людзей.

У Індыі прыбывае штодзённа 21 тыс. чалавек. На працягу аднаго года ў краіне колькасць насельніцтва павялічваецца на блізка 8 мільёнаў новых грамадзян.

### ТАЛЕНТ

На заходніх землях, у Ляскавіцах Алоўскіх, жыве 8-мігадовая Зося Лаўнічак - Дубалінская. Адразу пайшла да другога класа. Дзяўчынка навучылася сама чытаць ва ўзросце 4-ох год. За адзін год навучылася гаварыць па-руску. Зараз ужо хоча вучыцца з падручнікаў да 6 класа. Яна вельмі любіць гісторыю, геаграфію, фізіку і біялогію. Піша вершы, байкі і апавяданні. Маючы 6 год, здабыла першае месца на конкурсе чытання.




Жыву ў вёсцы. Зараз маю 19 год і закончаных толькі 7 класаў пачатковай школы. Сям'я ў нас вялікая — пяцёра дзяцей у бацькоў. Жывем не найлепш, бываюць недастаткі. І вось здарылася мне вялікае няшчасце. Аж сорамна прызнацца. Аднойчы завітаў да майго бацькі ў сваіх справах малады ляснічы. Было гэта ўлетку. Затым пачаў наведваць нашу хату даволі часта, у святкі і нават будні. Але ўжо не да бацькі прыязджаў на маторы, але да мяне. «Адну толькі цябе кахаю... Напэўна ажанюся з табою», — гаварыў. Мне паказалася, што ён шчыры. Цяпер я цяжарная ўжо другі месяц. Як толькі сказала яму аб гэтым яшчэ ў першым месяцы, дык перастаў прыязджаць. Я даведалася ад сяброўкі з Гайнаўкі, што ён ходзіць ужо да гімназісткі. Баюся прызнацца аб усім сваім бацькам. Што мне рабіць?

**Ліля з К.**

**Сапраўды ў цяжкім і складаным становішчы цяпер Ты апынулася, Ліля. Ляснічы, мабыць, шукаў толькі прыгод. Бачыш, Ліля, сваёй лёгкадумнасцю Ты зрабіла сябе нешчаслівай. На жаль, так паступаюць у нас многія дзяўчаты.**

**Перад бацькамі не скрывай свайго няшчасця. Скажы ім аб гэтым. Што ж можна Табе цяпер параіць, у чым дапамагчы? На маю думку, калі не хочаш мець дзіцяці, баішся, што не дасі яму належнага ўтрымання і баішся сораму, дык звярніся ў парадню свядомага мацярынства пры Павятовым асродку аховы здароўя ў Гайнаўцы, або непасрэдна да лекара гэтага асродка. Калі не запозна, дык цяжарнасць лекар можа Табе перарваць. Можна было б параіць, каб Ты пагаварыла яшчэ з гэтым ляснічым, але, здаецца, ён да Цябе ўжо не «вернецца». Можаш сказаць яму, няхай хаця ведае, што прычыніў Табе такую бяду, што мусіш шмат папрацiць на здароўі.**

**СЭРЦАЙКА**



Радыёактыўныя праменні маюць у медыцыне ўсебаковае прымяненне. Дзякуючы іх цудатворным уласцівасцям ліквідуюцца самыя грозныя ачагі хваробы.

На здымку: т. зв. «кабальтовая гармата» ў берлінскай клініцы, у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы.

Гэтая «гармата» бамбардзіруе ізатаповымі часцінкамі хворыя тканкі хлопчыка.

# Карысныя парады

Лёгкія шаўковыя рэчы — блузкі, касынкі і іншыя — ніколі не сушаць на вяроўцы. Выкруціце іх у ручніку, пакіньце так не некаторы час, а затым папрасуйце не вельмі гарачым прасам.

*

Махровыя ручнікі з цягам часу робяцца жорсткімі і дрэнна ўбіраюць вільгаць. У гэтым выпадку іх трэба памыць, пракіпяціць у салёнай вадзе і добра прапаласкаць. Прасаваць або катаць махровыя ручнікі не рэкамендуецца.

*

Для аховы скуры рук ад раздражнення і набухання ў час мыцця, іх трэба часцей апаласкваць у вадзе, да якой дабаўлены воцат.

# САПРАЎДНАЯ КАЗКА

Раз, два, тры, чатыры, пяць, вышаў зайчык пагуляць. Раптам лісіца выбягае і хітрым голасам зайчыка пытае:

— Куды спяшаеш, даражэнькі? Мо' на прагулку выбраўся.

У зайчыка ад страху душа апынулася ў кароценькім яго хвосціку. Крывячы мордачку, ён, заікаючыся, праляпятаў.

— Па-а-дыхаць свежым паветрам збіраюся.

— Вось як. Другія зайкі ў школе пацеюць, а ты, гіцаль, без ведама маці - зайчыхі і бабра - настаўніка ў гультаі сабраўся. Паветра свежага захацелася, — дакарала ліса, неўпрыкметку прыбліжаючыся да парушыцеля дысцыпліны.

Прадчуваючы бяду, зайка ад страху перакульнуўся і апынуўшыся ў густым зарасніку, замер.

Доўга ён так праляжаў без духу, ды вельмі шкадаваў, што не пайшоў у школу. Пасля, выплакаўшыся ўдосталь, устаў, і, апусціўшы вушы, паплёўся дахаты. За кожным карчом, здавалася зайку, пытаілася лісіца. Сэрца яго замірала і таму нічога дзіўнага, што ён у разгубленасці наступіў на старога крата.

— Інвалідаў не шануеце, на лясных дарожках хуліганіце! — запішчаў крот.

Зайчык шарахнуўся ў бок і апынуўся перад раздзяўленай пашчай ваўка.

На зайкава шчасце воўк быў сыты, як мяснік і вельмі лянівы. Але ўсё ж па-воўчым звычаю выскаліў зубы ды завыў:

— Што ж ты, напоўналетні грамадзянін, разбоям займаешся?! Сляпога старэчу Крата Кратовіча крыўдзіш!

Перапалоханы зайка прысеў на заднія лапкі і прашаптаў ледзь чутным галаскам:

— Прабачце вялікадушна. Ад лісіцы ратуюся.

— Лжэш каплавухі. Лісіца вегетырыянкай стала. На сам успамін аб мясе млосна ёй робіцца. Сама аб гэтым мне гаварыла.

Захапіўшыся сваім красамоўствам, воўк і не заўважыў як зайка знік.

Чытачы пацікавіцца могуць дзеля чаго апісаў я гэту гісторыю.

Людзі добрыя, ды папросту. Сустрэў я школьніка, уцёкшага са школьных заняткаў. Адчуваў ён сябе зусім па-заячы, а старэйшыя грамадзяне зусім абыякава праходзілі побач.

Кожны апушчаны дзень у школе вельмі спатрэбіўся б на экзаменах, але не вярнуць яго з прычыны заячай лёгкадумнасці.

*Вэздука Лявонь*






## Мой любы

Неахвота мне прызнацца,
Што расцяпай любы ёсць.
Што зрабіць, куды дзявацца?
Як праходзіць маладосць!

Замуж выйсці кожна хоча
Ды не кожны хоча браць.
Каб змяніць свой стан дзявочы,
У чарзе трэба стаяць.

Асудзіце людзі самі,
Лепшага шукаць мне дзе?
І найгоршы на'т часамі
Нам спатрэбіцца ў бядзе.

Любы мой ляжыць на печы,
Мухі б'е на паталку.
Адляжаў сабе ўжо плечы,
Спіць цяпер ён на баку.

Крыху хворы ён нябога,
Дроў зімою не прывёз.
І таму на печы ногі
Адмарозіў у мароз.

Едзе з горада мой любы,
Быццам усміхаецца,
Ён уставіў сабе зубы,
Рот не замыкаецца.

Любы кніжкі пазычае,
Ён — асвечаны народ,
Тыдзень вокладку чытае,
На змест рэзервуе год.

Што ты любы, надзьмуў губы
І фарсішся, як індык.
За вушамі бруду груба,
Ідзі вымыйся ў шаплік.

Я за любага вазьмуся,
Выкупаю, есці дам,
Будзе лепшы — вам бажуся,
Верце ўжо маім славам.

АНДРЭЙ САМАСЕЙ

## Гумар сатыра

Самаабслугоўванне

### ПАДЗЯКА ЦЁШЧЫ

— Я чуў, што вы, залаценькая цёшча, ужо хочаце нас пакінуць і выехаць?

— А як жа, мілы зяценька, а як жа. Бывай здаровы, дай табе Боже ж разбагацець, каб у цябе было 60 хат, каб у кожнай хаце было 60 пакояў, каб у кожным пакоі — 60 ложак і каб цябе ў дзень 60 разоў трасца трасла, ды перакідвала з адной пасцелі на другую.

Янка Клімюк
Дубічы - Царкоўныя

### ДАГАВАРЫЛІСЯ

Аднойчы стары, лысы кавалер спаткаўся з маладой, здаровай і грудзістай дзяўчынай. Ён узяў яе за грудзі і кажа:

— Ох, каб мы з табою пажаніліся, тады план з малаком выканалі б.

Адкінуўшы яго руку ад сваіх грудзей, дзяўчына гладзіць яго па лысай галаве і адказвае:

— Але з шэрсцю зусім праваліліся б.

Марыся Бярозка
з-пад Дыдулёў




Падзялілі першае месца...

### АДКАЗАЎ

Настаўнік дае прыклады:
— Я мыюся, ты мыешся, яны мыюцца. Толік, які гэта час?
— Субота! — пачуўся адказ.

Марыся Нікіцюк
Бельск

### НЕ МАЕ КЛОПАТУ

— Я ніколі не маю клопату з выхаваннем сваіх дзяцей: ніколі на іх не падымаю рукі, ну хіба толькі ў самаабароне!

Сяргей Сэвэрын
Мастаўляны

### НЕ ПРЫЗНАУСЯ

Маці: — Коля, скажы, колькі маеш двоек?
Коля: — Не скажу.
Маці: — Прызнайся, то за кожную двойку дам па залатоўцы.
Коля: — Што ты хочаш, каб за пятнаццаць злоты выявіў я сваю таямніцу?!

Мікалай Назарук
Плюцічы

### АСЦЯРОЖНЫ

Суддзя да шафёра, які пераехаў старую бабулю:
— Чаму вы не трубілі?
— Не хацеў перапалохаць, пане суддзя, — адказвае шафёр.

В. Іванюк
Пасынкі



— Нарэшце я распраўлюся з маім мучыцелем!

## Замуж пайсці, трэба знаць

(БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ПЕСНЯ)




Замуж пайсці — трэба знаць
Позна легчы, рана ўстаць.
Ох, я бедная!
Бедна галоўка мая!

Ледзьве тыдзень па вяселлі,
І прыносіць муж кудзелю.
Ох, я бедная! і г. д.

Кудзеля і верацёна
Ля цябе, мая жона,
Ох, я бедная! і г. д.

Трэба ткаці, трэба прасьці:
Німа белля ані ўкласці.
Ох, я бедная! і г. д.

Дзевярочак — ні браточак:
Да дзіцяці, як звярочак,
Ох, я бедная! і г. д.

А залвіца — ні сястрыца:
Да дзіцяці, як звярыца.
Ох, я бедная! і г. д.

А сьвякроўка — ні матуля:
Дзіця плача, не прытуле.
Ох, я бедная! і г. д.

А мужык мой муку сее,
А я рада, што ўмее.
Ох, я бедная! і г. д.

Пакуль хлеб я замясіла,
Свіння дзверы ззавесіла.
Ох, я бедная! і г. д.

Пакуль дзверы уставіла,
Дык і мужа угнявіла.
Ох, я бедная! і г. д.

Пакуль мужа загадзіла,
Дык свіння гаршчок пабіла.
Ох, я бедная! і г. д.

